№ 86. 8 сьнежня 1916 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# ГОМАН


БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЕНСКАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ: У АЎТОРКІ І ПЯТНІЦЫ.

**Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:** на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.


# Як пау Букарэшт.

## 7 сьнежня..

**Заходні тэатр:**

*Фронт нямецкаго Насьледкіка:* На заходнім беразі Маасу часьці пешаго палка № 15 пры вяршыне «304», на палудзенным усходзі ад Малянкур, уварваліся у францускіе акопы і занялі паменёную вяршыну с 5 афіцэрамі і 190 салдатамі.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На заходзі ад Луцка, на заходзі ад Заложа і Тарнополя нашы патрулі ўзялі 40, 30 і 20 палонных.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* У лясістых Карпатах і надгранічных гарах Молдавіі — артылерыйскі агонь. На поўначы ад Дорна Ватра і ў даліне Тротоса—расейскіе наступленьня, каторые былі адбіты.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Фэльдмаршалак Макензэн і войскі 9-ай дунайскай арміі сабралі ўчора плён трудоў і бітв, ведзеных дзеля таго, каб шыбкімі ударамі разбіць румыноў і пасьпяшыўшую ім на ратунак расейскую падмогу.

**Букарэшт,** сталіца апошняй ахвяры дыплёмаціі саюзьнікоў, **Плоэшті, Кампіна і Сінайя—ў нашых руках.** Разбітые на ўсім фронці ворагі адыходзяць на ўсход.

Апрыч глаўных нямецкіх сіл, да удачы прычыніліся аўстуыяцкіе, боўгарскіе і турэцкіе войскі. 9-я армія ўзяла ўчора ў палон 106 афіцэроў і 9100 салдатаў. Опэраціі і бітвы ідуць далей.

*Македонскі фронт:* Пры Тырнове, на усходзі ад Чэрнай, наш полк № 146 разам з боўгарскімі ротамі выкінуў сэрбоў с пазыціі, каторую яны былі занялі пазаўчора. Узяты ў палон 6 афіцэроў і 50 салдатоў. У даліне Струмы адкінуты англіцкіе атрады, нрабаваўшые падыйсьці да пазыціі на палудні ад Сэрэса.

---

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 5 сьнежня, а 10 г. 30 м. перад абедам да камэнданта Букарэшту быў послан ад фэльдмаршалка Макензэна парлямэнтар с пісьмом, жадаючы здачы крэпасьці. Пісьмо не было прынято, і глаўнакамандуючый дунайскай арміей атказаў, што Букарэшт—ня крэпасць, а аткрытае места. Раніцай 6 сьнежня конніца Шмэтова заняла адзін форт на паўночным фронці. Часьці 54 корпуса занялі лінію фортоў заходняго і паўночнаго фронту. Ворагі бараніліся толькі пры помачы пяхоты. Увайшоўшые ў Букарэшт нямецкіе войскі былі пачэсна вітаны і абкіданы кветкамі. Макензэн на аўтомобілі паехаў у каралеўскі замак, дзе яго спаткалі з букетамі.

### Катастрофа ў Румыніі.

ФРАНКФУРТ на М. «Frankf. Ztg.» паводлуг офіцыальных ведамасьцей пішэ, што ад пачатку румынскаго паходу ўзяты ў палон 774 румынскіе афіцэры і 107 тысяч салдатоў, здабыты 448 гармат і 186 кулемётоў. Дабыча штодзень расьце. Больш пятай часьці румынскай арміі, каторая выступіла ў паход, апынулася ўжо ў нямецкім палоні.

ПАРЫЖ. Агенцтво Фурнье даносіць, што Яссы — гэта цяпер мейсцо бытнасьці румынскаго правіцельства. Гэтымі днямі там збярэцца парлямэнт.

ЛЮГАНО. Італьянскіе газэты пішуць, што **румынскі кароль** с прычыны сур'ёзных спорак з Братіяну, Бэртэлё і расейскім паслом Мосоловым **хочэ адрачыся ад трону.**

ШТОКГОЛЬМ. Ваенны карэспандэнт «Нов. Вр.» даносіць:

У ваенных кругах лічаць, што віна за улажыўшаеся палажэньне ў Румыніі ляжыць на генэрале Брусіловым, бо ён адмовіўся даць больш сур'ёзные сілы на румынскі фронт.

### Разруха у Грэціі.

АФІНЫ. 5.XII. Палажэньне без перамен. Аружные запасные гуляюць па вуліцах. Кароль са сваёй сям'ёй знаходзіцца ў замку.

### Міністэрскі крызіс у Англіі.

ЛОНДОН (В.Т.Б.). Бонар Лоў адмовіўся споўніць просьбу караля улажыць міністэрство, лічучы для сябе непасільным заняць мейсцо міністра-прэзыдэнта.

АМСТЭРДАМ. (В.Т.Б.). Рэўтэр даносіць:

Кароль пазваў да сябе Ллойда Джорожа.

# Per aspera ad astra*).

21 лістапада, апісываючы палажэньне на румынскім фронці, мы пісалі: „Аткрытым астаецца пытаньне, чы развязка будзе мець мейсцо у паўночнай Валахіі, чы на якім-будзь іншым адрэзку румынскаго фронту". Цяпер можна ўжо сказаць, што развязка румынскаго паходу апынулася ў руках дунайскай арміі генэрала Коша, каторая станавіла левае крыло даўнейшаго фронту Макензэна, а цяпер, калі армія Фалькэнгэйна („IX армія") так сама прыслухае Макензэну, становіць цэнтр новаго фронту Макензэна. Сваім быстрым пераходам цераз Дунай яна прычынілася да развязкі пытаньня ня толькі аб Малай Валахіі, але і аб Вялікай.

Незвычайные удачы злучэных армій у Румыніі прымусілі расейцоў узяць на сябе зашчыту ня толькі ўсходня - семіградзкаго фронту, але і так-званаго палудзенна-румынскаго фронту. Камэндантам Букарэшту быў назначэн францускі генэрал Бэртэлё. Калі верыць газэтным весткам, глаўную каманду над злучэнымі румынска-расейскімі сілами ўзяў на сябе вялікі князь Мікалай Мікалаевіч. Факт, што на гэткае важнае і небаспечнае мейсцо назначэн дзядзька расейскаго цара, або, калі гэтае назначэньне не адбылося, факт, што расейскіе газэты лічаць такое назначэньне магчымым, паказвае, якую вялікую вагу прыдаюць саюзьнікі палажэньню ў Румыніі, паказвае, што саюзьнікі пастанавілі памагчы Румыніі за ўселякую цэну. Сколькі можэ згадаць напярод чэлавечы розум, нават пры найвялікшым напружэньні сіл саюзьнікам не удасцца зьмяніць тое палажэньне, каторае цяпер злажылося ў Румыніі. -Але разам с тым ясна, што румынскіе войскі будуць да апошняго бараніць сваю зямлю і што Макензэн у сваім далейшым наступленьні спаткае вельмі цьвёрды адпор.

Ход румынскаго паходу развязаў толькі адно пытаньне: на Балканскім ваенным тэатры сусьветнай вайны Расея і яе саюзьнікі закончыць не здалеюць.

Міністэрскі крызіс у Англіі і адстаўка Асквіта паказваюць, якое сільнае ўражэньне зрабілі прыпадкі ў Румыніі на грамадзянство. І гэта адстаўка паказвае, што у найбліжэйшых месяцах вайна дойдзе да свайго найвялікшаго развіцьця. Ллойд Джордж, каторы вызваў развал міністэрства Асквіта, гэта годны замясьціцель лорда Кітчэнэра, вельмі добры і сур'ёзны арганізатар. Прыгатаўленьне нячутай меры запасоў амуніціі, пры помачы каторых англічане і французы маглі весьці страшэнную пяцімесячную баталію на Сомме і дайсьці дзе-якой удачы, гэта заслуга Ллойда Джорджа, каторы цяпер займае ў Англіі найважнейшае мейсцо. Ён прымусіў Асквіта пакінуць яго мейсцо, абвінаваціўшы яго ў недаволі энэргічным вядзеньні вайны. Трэба думаць, што сам ён маніцца весьці вайну болей энэргічна. Трэпов, каторы, як здавалося, павінен быў прыгатаваць Расею да міра, сваей ваяўнічай прамовай у Думе паказаў, што і Расея у найбліжэйшых месяцах спрабуе апошні раз напружыць усе свае сілы, каб павярнуць ход вайны ў карысны для саюзьнікоў бок. Гэткіе спробы рабілі саюзьнікі не адзін раз, але ўсё дарэмна. Ў кожным разі у чародных месяцах трэба ждаць ярчэйшаго развіцьця сусьветнаго пажару, і яно, як гэта ні сумна для шмат каго с-паміж тых, хто будзе ліць сваю кроў, павінно давясьці да канца тых страшэнств, які е перэжывае чэлавечэство ўжо поўтрэця году.

*) С цемры да зор!

# У Вільні і ваколіцах.

× **Літоўская газэта.** Як нас паведамляюць с пэўнай крыніцы, нядаўна паднялося ізноў пытаньне аб аткрыцьці літоўскай газэты ў сталіцы Беларуска-Літоўскай зямлі. Ужо зроблены крокі дзеля выхаду газэты, і можна спадзевацца, што ў найбліжэйшым часі віленскіе літвіны будуць мець сваю ўласную газэту.

Першы нумэр газэты выйдзе бадай каля Новаго Году, а мо' і яшчэ раней.

× **Беларускі вечар.** Напамінаем, што ў гэту нядзелю, 10 сьнежня, ў салі Работніцкаго Клюбу (Вароньня 5) адбудзецца беларускі музыкальна-драматычны вечар. Чысты даход з яго пойдзе ўвесь на карысць беларускіх школ-ахронак

